ДЗЬМІТРЬ СОЎ

# ЧАЙ

ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА

АНАТОЛЬ ТЫЧЫНА

Н. ДЗЬМІТРЫЕВА

# ЧАЙ



ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“
МЕНСК—1928



Праз некалькі дзён пасьля таго, як у сямігадовага Лі-Ю-Чэна памерла маці, бацька яго— Чэу-Лі — сумна агледзеў сваю гаспадарку: усё неяк раптам прышло ў поўны заняпад. Па вуглох валялася брудная, незалатаная адзежа, стаяла нямытая пасуда. У агародзе расада зьвесіла лісточкі, і стручкі маладога гароху, непадвязаныя, слаліся па зямлі.

Чэу-Лі махнуў рукою.

— Нечага цяпер нам з табою рабіць, Лі-Ю-Чэн...—сказаў ён.—Я ўжо не малады і бедны. Ніякая жанчына ня пойдзе да мяне ў жонкі, а бяз жонкі—якая гаспадарка!

Праз некалькі дзён ён прадаў нейкаму чужому чалавеку сваю мізэрную гліняную хатку і кавалак зямлі, на якім расьлі боб, гарох і рэпа, і на атрыманыя грошы купіў човен.

— Глядзі-тка, Лі, была ў нас хата на зямлі, а цяпер на вадзе будзе,—сказаў ён, папраўляючы трысьцяную страху над кармою.

Лі-Ю-Чэн пагаспадарску глянуў у човен: пад страхою было цесна, але зацішна і прыемна качала.

Трэба было прымайстравацца на новым месцы. Калі зборка была скончана, Лі нашоў, што ў новай хаце ня горш, чым у старой: усе знаёмыя прывычныя рэчы прымасьціліся па мясцох: і сундучок з намаляванымі чырвонымі і жоўтымі драконамі, і некалькі гліняных і дзеравяных гаршкоў і місак, і жараўня...

Лі скокнуў на бераг і са здаваленьнем яшчэ раз аглядзеў новае жыльлё. Тут толькі ён заўважыў, што з абодвух бакоў вострага носу чаўна намалявана па сіняму-сіняму рыбнаму воку...

— А навошта ў чоўна вочы?—спытаў ён бацьку.

— А гэта дзеля таго, каб човен бачыў, куды плыве—адказаў Чэу-Лі і засьмяяўся.

Перад ад'ездам Чэу-Лі ўзяў сына за руку, разьвітаўся з суседзямі, абышоў у апошні раз хатку і гарод, вярнуўся назад к чоўну—і адпіхнуўся доўгім прысам ад роднага берагу. Човен паплыў, спачатку ціха, потым хутчэй... На сярэдзіне ракі яго падхапіла плынь, і ён плаўна ляцеў, кіруемы доўгім прысам з дзьвума лапаткамі, якімі спорна працаваў Чэу-Лі, стоячы на карме.

У бліжэйшым гарадку ён купіў на тыя грошы, якія ў яго былі, рознага таннага тавару,—і пачалося для іх вандроўнае жыцьцё— цяжкае жыцьцё.

У Кітаі за рамяство вандроўнага гандляра дробным таварам бяруцца толькі бяздомныя беднякі, без сям'і, ды адзінокія. Нажыцца на гэтай справе нельга, і толькі-толькі хапае на тое, каб пракарміцца.

Яны плавалі па вялікіх рэках і маленькіх рэчках, заходзілі ў шырокія і вузкія канавы з адхоннымі зялёнымі берагамі, якія разносілі ваду па рысавых палёх. Застанаўліваліся яны ва ўсіх стрэчных паселішчах: там Чэу-Лі прапаноўваў свае гузікі, іголкі, цьвікі і ніткі ды зноў пускаўся ў дарогу.

Так вандравалі яны круглы год. Вялі барацьбу з халоднымі зімовымі туманамі і частымі летнімі даждажамі. За тое вясною ім жылося лёгка і прывольна.

Човен плаўна коўзаўся то па шырокай, ярка-жоўтай рацэ ў гліністых берагох, то па вузенькай рэчцы між аксамітнымі зумруднa-зялёнымі палямі. Шматлюдныя мізэрныя вёсачкі хавалі ў зялёных садзіках свае, як цацкавыя, глінабітыя хаткі з ледзь пахілымі ў адзін бок трысьцянымі стрэхамі. Цьвілі пладовыя дрэвы, нізенькія вішні ды сьліўкі, і човен нярэдка плыў па супакойных вузкіх канавах

абапал пакрытых спадаўшымі з цьвітучых ґалін белаpужовымі пялёсткамі.

Пад вечар Чэу-Лі прычаліваў дзе-небудзь к ціхаму берагу ды вудзіў рыбу. Лі, набраўшы сухога трысьця, разводзіў вогнішча, а бацька прымаўся чысьціць чырвонапёрых акунёў. Рыбу смажылі тут-жа на каменьнях, і ад гэтага яна здавалася Лі-Ю-Чэну асабліва смачнай.

Калі цямнела, Лі забіраўся пад павець іхнага плывучага селішча і засынаў. А Чэу-Лі, вывеўшы човен на сярэдзіну ракі, доўга яшчэ сядзеў на насу, гледзячы на сьветла-блакітнае вячэрняе неба з ружоваю стужкай зары на захадзе.

Па начох на насу плывучага чаўна хістаўся зморшчаны папяровы ліхтарык, і ружовы сьвет ад яго падаў на ваду і, уздрыгваючыся, як жывы, бегаў увесь час уперадзе чоўна.

Інагды міма іх бяз шуму праплываў такі-ж човен з аганьком, і паўсонлівы голас напяваў тую-ж песьню, якую мурлыкаў сабе пад нос Чэу-Лі.

Так пражылі яны цэлых пяць год.

Чэу-Лі зарабляў гандлем роўна столькі, колькі ім хапала на жыцьцё, і не клапаціўся аб большым. Цэлыя вякі жабрацтва навучылі кітайца здавольвацца малым; адна-дзьве прыгаршчы варанага рысу ў дзень, гародніна і садавіна ды блін з рысавай ці кукурузнае мукі—

вось і ўсё, чым харчуецца кітайская бедната.

Так жылі-б яны і далей, каб нечакана не падкралася бяда.

Лі-Ю-Чэн з бацькам плавалі тады па вялікай рацэ па празваньню Цянь-Хо. Неяк увечары, калі Лі ўжо спаў, бацька яго, схаваўшы некалькі выручаных за дзень медзякоў у скураны мяшэчак, які ён насіў на грудзёх, выпрастаў зморaную сьпіну, і азірнуўся: яму здалося, што вада ў рацэ паднялася, і што яна жаўцей, чым звычайна ў гэты час году.

„У гарах выпаў дождж...“—падумаў ён, пасьцілаючы на карме саламяны дыван-цыноўку, які служыў яму замест пасьцелі, і скора моцна заснуў.

У гэты час над усім Паўднёвым Кітаем прайшлі моцныя лівні. Цягнуліся яны ўсяго некалькі дзён, але рэкі ўздуліся і з гулам і плёскам рынулі з горных вышынь у нізіны. Там яны разьліваліся і размывалі гліняныя будынкі, вырываючы дрэвы і ўносячы з сабою ўсё, што пападалася на шляху.

Не пашкадавала бяда і нашых кітайцаў.

Прачнуўся Лі з бацькам ад моцнага хістаньня на сярэдзіне ракі. Яна гнеўна бурліла... Чырвонажоўтыя хвалі то імкліва імчалі човен уперад, то раптам круцілі яго на месцы,

то зноў падхоплівалі і, залiваючы пенай і пырскамі, уносілі далей. Чэу-Лі кінуўся к карме і дужа ўскрыкнуў ад перапуду: прыса ня было.

Склаўшы рукі, глядзелі бацька з сынам, як іх нясе плынь.

Разам з чоўнам па рацэ плылі, усплёскваючы галінамі, вырваныя з коранем дрэвы, плыты, трысьцяныя шалашы, змытыя з палёў.

Човен хістала ўсё мацней. Лі ўхапіў бацьку за руку і заплакаў ад страху. Раптам човен з усяго размаху ўдарыўся аб два сцэпленых дрывяных камлі, нешта затрашчэла... Лі апынуўся ў халоднай вадзе і захлібнуўся...

Прышоў у сябе ён на беразе. Сьвітала... Рака бурліла паранейшаму. Побач з ім, скорчыўшыся ад холаду і сырасьці, сядзеў яго бацька. Чоўна ня было і ў паміне: рака панясла і яго і ўвесь быўшы ў ім тавар.

Чэу-Лі з Лі-Ю-Чэнам засталіся жабракамі.

Па купінах залітага вадою рысавага поля выбраліся яны на цьвёрдую зямлю, дзе ў іх ня было цяпер ні прыпынку, ні скарынкі хлеба.

* * *

Доўга брадзілі яны ад вёскі да вёскі, зьбіраючы міласьціну і спадзяючыся адшукаць якуюнебудзь працу,—але яе ўсё ня было.

Народу ў Кітаі так шмат, і так мала зямлі дастаецца на долю беднага кітайца, што кожны сам са сваёй сям'ёю абрабляе свой кавалак. Тым-жа, у каго зямлі няма, даводзіцца жабрачыць ці ісьці на заработкі ў вялікія гарады там яны наймаюцца на фабрыкі ці паступаюць насільшчыкамі і грузчыкамі ў тарговыя канторы ды іншыя прадпрыемствы, якія належаць багатым кітайскім купцом, а часьцей—чужаземцам: ангельцам, амэрыканцам і французам.

Кепска жывецца кітайскаму рабочаму. Шмат іх сходзіцца ў гарады, і прамыслоўцы, карыстаючыся іх патрэбамі, плоцяць рабочым такія мізэрныя грошы, на якія нават прывычны к галадоўкам кітаец ня можа пражыць.

І многім тысячам іх прыходзіцца пакідаць бацькаўшчыну—радзіму і ехаць у далёкую Амэрыку, Англію, Аўстралію ці на выспы Ціхага акіяну, у шуканьнях працы дзеля пражыцьця.

Чэу-Лі з сынком ішоў усё на ўсход, дзе было шмат вялікіх гарадоў, і дзе, як ён чуў, ангельцы набіралі рабочых. Ішлі яны павольна, часта зварочвалі з дарогі, выпрошвалі міласьціну, і к вясьне дабрылі да Ніньчаўскае акругі ў Паўднёвым Кітаі.

Наступіў сакавік, а разам з ім і самы лепшы час году. Аднойчы ўраньні Чэу-Лі з Лі-Ю-



Чэнам, змораныя і галодныя, як заўжды за апошні час, падняліся на высокую гару ды селі адпачыць на яе паўднёвым схіле.

Унізе пад імі разаслалася зялёная даліна, з поўначы абароненая даволі высокімі гарамі. Там ды сям сярод зеляніны бачыліся гліняныя хаткі з бадай што адхоннымі стрэхамі з цёсанага дрэва ці выпаленае чарапіцы... Па адхону гор і справа і зьлева паўзьлі ўгору роўныя, быццам пад шнур пасаджаныя, дрэвы.

— Глядзі-тка, Лі, гэта-ж чайнае дрэўца!— сказаў Чэу-Лі. Павінна быць гэта заможнае паселішча... Вунь колькі пасадак усюды, наколькі вока хопіць. Можа быць, хоць тут нам пашчасьлівіцца знайсьці працу. Пойдзем-тка хутчэй!

І абодва, таропячыся, сталі спускацца з гары.

Гарачае сонца стаяла над цьвітучай далінаю.

Яно залаціла сьвежую, пяшчотную, як пух, зелень маладых чайных дрэў, адгароджаных ад сьцежкі нізкімі плятнямі. Кожнае дрэўца, быццам толькі што вымытае дажджом, падымалася ад зямлі ў рост чалавека. Расьлі яны хоць і досыць цесна, але ня шкодзілі адно другому. Зямля вакол была чыста выпалата, і чайная плянтацыя быццам усьміхалася на-

шым спадарожнікам сваёй сьветла-зялёнай вясноваю адзежай.

Вось за нізенькімі верхавінамі дрэў заміль-гаў шырокаполы саламяны брыль, падобны на грыб. Чэу-Лі ўзяў Лі-Ю-Чэна за руку і яны накіраваліся ў яго бок.

За праслам ад дрэўца да дрэўца дыбаў стары кітаец, уважліва аглядаючы камлі і лістоту. Параўняўшыся з ім, Чэу-Лі, абхадзі-цельна, як усе ў Кітаі, цэрамонна пакла-ніўся, сьледуючы звычаю; тое-ж зрабіў і ма-ленькі Лі.

Дзед падняўся з зямлі і так-жа адказаў на прывітаньне.

— Добры гаспадар,—зьвярнуўся да яго Чэу-Лі,—не адмоў у ласцы паказаць самаму беднаму з кітайцаў, ці ня знойдзецца ў гэтым шчасьлівым паселішчы якой-небудзь працы для яго і для такога-ж беднага яго сына? Няшчасны выпадак адабраў у нас усё, што мы мелі, і многа ўжо месяцаў мы харчуемся тым, што нам падаюць добрыя людзі.

Дзед уважліва агледзіў Чэу-Лі.

— Ня ведаю, што вам і адказаць, падарож-нік,—сказаў ён. Усе мы небагаты і працуем самі. Спытайце далей, можа быць і знойдзеце што-небудзь добрае.

І, пакланіўшыся, зноў схаваўся за дрэвамі. Чэу-Лі ўздыхнуў, усьлед за ім уздыхнуў і

Лі-Ю-Чэн, і абодвы панура рушыліся было ў дарогу, як раптам брыль ізноў паказаўся з-за прасла, і дзед паклікаў іх:

— Бачыце—пачаў ён,—сам я не багат; усё, што ў мяне ёсьць—гэтыя вось сорак чайных дрэў. Уперад я працаваў з братам, але ён нядаўна памёр, а сам я стар, і баюся, што ня ўпраўлюся гэтым летам адзін... Але, паўтораваю, я не багат, і за вашу працу магу прапанаваць толькі начлег і яду... Грошы ў мяне няма...

Чэу-Лі з радасьцю прыняў прапанову: яго старыя ногі даўно ўжо нылі ад хадзьбы па пыльных і камяністых дарогах і прасілі супакою.

Так Лі з бацькам і засталіся ў старога Мы-Ю-Коона.

Стаяў канец сакавіка,—час першага чайнага збору. Ужо ў наступнае раньне Мы-Ю-Коон і яго новыя работнікі ўсталі на золаку, і, захапіўшы па вялікаму трысьцяному кошыку, вышлі на пасадкі.

Гаспадар яшчэ раз агледзеў кожнае дрэва: маладыя лісточкі досыць падрасьлі, разьвярнуліся; пара было прымацца за збор, пакуль яны не агрубелі і ня згубілі тонкага паху.

— Ну, пачнем!—сказаў стары Мы-Ю-Коон, ставячы свой кошык у першага дрэўца.—І няхай пашле нам неба ціхае пагоды і гарачага сонца!

Сьледам за ім прыняліся за працу і іншыя. Да апошняга абшчыпваючы лісткі ды почкі з кожнае галінкі, яны зьбіралі іх у кошыкі, а потым ссыпалі ў адзін самы больша, прыгатаваны раней пад павецьцю хаткі ў цяні.

Калі кошык напоўніўся даверху, Мы-Ю-Коон з Чэу-Лі, узваліўшы яго сабе на сьпіну, накіраваліся на чайную фабрыку багатага кітайца Чэн-Мы-Юю, што знаходзілася ня так далёка. Лі пабег разам з імі.

Па дарозе Мы-Ю-Коон у нецярпеньні патураў і без таго запыханага ад гарачыні ды цяжкога кошыку, Чэу-Лі.

— Чэн-Мы-Юю—самы хітры і скнары чалавек ва ўсім Кітаі!—хваляваўся Мы-Ю-Коон.— Калі ліст чуць-чуць завяне і згубіць свой тонкі пах,—бяда! Ні завошта не атрымаць мне ад яго сапраўднай цаны!

І бедны Чэу-Лі дрыжэў і пацеў пад цяжкім кошыкам, а Лі ўпрыскочку чуць пасьпяваў за сваім старым бацькам.

* * *

Пасьля закату ў даўно нябеленай хацінцы Мы-Ю-Коона быў паўзмрок. Тускла сьвяцілася маленькае ваконца, зацягнутае белай прапускной паперай замест шкла, якое ў Кітаі можна сустрэць толькі ў багатых дамох.

У адным куту прымасьцілася гліняная ляжанка, пакрытая цыноўкай; у другім стаяў вялікі, пярэста расфарбаваны драўляны сундук, куды Мы-Ю-Коон складваў увесь свой хатні скарб.

Пасярод хаты, проста на глінянай гладкаўбітай падлозе стаяў зусім нізенькі столік, на якім красаваліся дзьве дзеравяных міскі: адна з вараным рысам, другая з дробна пакрышанай гароднінай.

Усе трое паважна селі на падлозе вакол століка і прыняліся за простую вячэру.

Трымаючы паміж пальцамі правае рукі па пары дзеравяных палачак, кітайцы кончыкамі іх скора хапалі кучкі рысу, кавалкі гародніны, боб і гарох, і, з лоўкасьцю сапраўдных штукароў, адпраўлялі іх у рот.

Палачкі з трэскам стукаліся адна аб другую, лёталі ўзад і ўперад...

Калі вячэра была скончана, Лі ў той-жа час забіўся ў цёмны куток і ўлёгся спаць, а бацька яго вышаў на прызбу падыхаць сьвежым паветрам.

Мы-Ю-Коон прынёс дзьве гліняных маленькіх люлькі, набіў іх моцным тытуном. Чэу-Лі даўно ня курыў і таму з асаблівым задаваленьнем зацягваўся і пускаў блакітныя кольцы дыму, якія віліся і расставалі ў вячэрнім паветры. Было вельмі ціха. Па небу калабро-

дзілі залацістыя лёгкія воблачкі, на пасадках сонна чырыкалі маленькія птушкі.

— Вы думаеце, мала працы і клопату кaштавалі мне мае чайныя дрэвы, паважаны Чэу-Лі?—загаварыў Мы-Ю-Коон.—Тры гады назад я пасадзіў іх у пітомнікі і захоўваў больш свайго вока: палівау, зрываў першыя нягодныя лісткі, каб корань стаў мацней, а ствол пашоў угору. Затое на другі год дрэўцы сталі ў два разы вышэй і прыняліся, як добры гарох пасьля дажджу. І як-бы вы думалі, Чэу-Лі? На трэцяе лета мае выхаванцы дасягнулі ўжо паўтара аршына росту, і я сам, сваімі рукамі, перасадзіў кожнае дрэўца вунь туды, на гару... Цяпер ім ужо чатыры гады ад роду: паглядзіце, якія яны прыгожыя! Гэтым летам яныададуць багаты ўраджай, калі неба будзе літасным к бедным земляробам і пазбавіць нас ад дажджоў ці халадоў, што яшчэ горш для чайнага збору!

Нагутарыўшыся ўволю, дакурыўшы люльку, Мы-Ю-Коон паказаў Чэу-Лі цыноўку і месца пад павецьцю, а сам пашоў спаць у хату на сваю ляжанку.

Так Чэу-Лі з сынам працавалі ў Мы-Ю-Коона досыць доўга. Скончыўшы першы збор, яны абкапалі кожнае дрэва, выпалалі шкодную траву і падрыхтавалі зямлю для новых пасадак. К гэтаму часу дарослыя дрэвы

пасьпелі ізноў абрасьці почкамі і лістотай, і Чэу-Лі з Лі-Ю-Чэнам прыняліся за другі збор.

За лета чайнае дрэўца абшчыпваецца ды зноў дае лісткі—тры, а калі-небудзь і чатыры разы; ня дзіўна пагэтаму, што Лі-Ю-Чэн з бацькам доўга заставаліся ў старога Мы-Ю-Коона.

* * *

Аднойчы ўвечары, калі праца на яго пасадках блізілася к канцу, Мы-Ю-Коон, усеўшыся на прызьбе хаткі, сказаў.

— Чэу-Лі, я глыбока спачуваю вашаму няшчасьцю і хацеў-бы быць вам карысьцен, наколькі гэта магчыма для такога беднага кітайца, як я. Ці не дазволіце вы рэкамэндаваць вас чайнаму фабрыканту Чэн-Мы-Юю? Праўда, ён скнары і тлусты, як сьвіньня, з тых пор, як у яго завялася свая фабрыка... Адылі-ж гэта так водзіцца, што гаспадар тоўсты, а рабочы сух, як бамбукавая палка. Вам усё роўна нечага рабіць, а там, можа быць, выпадзе што-небудзь зарабіць. Ураджай у гэтым годзе добры, і Чэн-Мы-Юю, вядома, пастараецца загрэбчы да апошняга лістка, так што на працу ён вас возьме.

Чэу-Лі шчыра падзякаваў, і ўраньні яны ўсе ўтраіх накіраваліся на чайную фабрыку.

Яна знаходзілася ў баку ад пасадак, у нізіне, і ўяўляла з сябе невялікую будоўлю, абкружаную дваром, на якім грэлася куча паўголых, сухіх рабочых, якіх у Кітаі завуць „кулі“.

Фабрыкант сапраўды быў тоўсты, як добра адгадаваная сьвіньня. Ня гледзячы на раньні халадок, з тлустых складак яго твару каціўся пот, які ён раз-по-раз выціраў шырачэзным рукавом сваёй сіняй кохты.

Ён выслухаў Мы-Ю-Коона, прышчурыўшы адно вока і зьвесіўшы губу.

— Гультаі!—прапыхцеў ён, потым аддыхаўся і дабавіў:—Многа іх тут ходзіць... Загінуў Кітай, абгультаіўся Кітай!

Тут ён уздыхнуў, і раптам паказаўся Лі-Ю-Чэну, як дзьве каплі вады, падобным на вялізную пузатую жабу.

— Дзьвесьці чох, і ні чоха больш, разам са сваім касавокім чарцёнкам!—выпаліў ён раптам у твар Чэу-Лі, і надзьмуўся яшчэ больш.

Мы-Ю-Коон адчыніў быў рот, але ў свой час спахваціўся і сьціснуў яго абедзьвюма рукамі. А ў беднага Чэу-Лі доўгая каса чуць ня стала дыбам.

І было ад чаго! Дзьвесьце кітайскіх чох,— гэта каля дзьвюх грыўняў на нашы грошы!

— Рабіць няма чаго, разважаць нам ня прыходзіцца,—падумаў Чэу-Лі і, горка пачасаўшы за вухам, згадзіўся.

А Чэн-Мы-Юю, тайна вельмі задаволены такою карыснаю зьдзелкай, ткнуў яго пальцам у грудзі і навучальна заўважыў.

— Божаскае сонца паважней цябе, а працуе з раньняга ранку да позьняга вечару і нічога не атрымоўвае за сваю вялікую працу. Так павінен і кожны паважны кітаец.

Тут Чэн-Мы-Юю ад здаваленьня нават усхрапнуў.

Невядома, куды-б завяла яго фантазія, каб ля варот не пачуўся скрып колаў. Таўсьцяк раптам ажыў і нема закрычаў:

— Гультаі! Паршыўцы!

Рабочыя, як на злом галавы, кінуліся адчыняць вароты, і Чэу-Лі з сынам засьпяшаліся за імі.

На двары застанавіліся дзьве ручных каламажкі, напоўненыя некалькімі вялізнымі кошыкамі са сьвежым чаем.

У той час, як фабрыкант прымаў кошыкі і ўзважваў іх зьмясьцімае, кулі лоўка разасьлалі па зямлі цыноўкі. Чэн-Мы-Юю на кожную з іх насыпаў па цэлай гары сьвежага лісту, і кулі пtriняліся з усёй сілы таптаць яго босымі нагамі...

Чэу-Лі таксама атрымаў цыноўку і старанна, як іншыя, заскакаў на ёй. А Лі-Ю-Чэну гаспадар даў ёмкую апляуху і прымусіў яго зьмятаць лісткі чаю, якія разьмяталіся ў розныя бакі...

Сонца ўжо высока ды пякло ўсё больш і больш. З твараў і з усяго цела рабочых цуркам каціўся пот, але зіркае вока гаспадара не давала ім адпачыць ні хвіліны. І Чэу-Лі, не адстаючы ад іх, ня гледзячы на зморанасьць, скакаў і падскокваў на сваёй кучы.

Лі-Ю-Чэну такі занятак здаўся вельмі дзіўным. Ён толькі пазьней даведаўся, што рабочыя мнуць нагамі сьвежы чайны ліст для таго, каб выжмаць з яго кіслы сок. У гэтае-ж раньне ён са зьдзіўленьнем жмурыў свае раскосыя чорныя вочы на бацьку, які скакаў, стараючыся не сьмяяцца, што было-б зусім няпрыгожа для добра выхаванага кітайчонка.

Ды к таму-ж, Лі вельмі скора заўважыў, што скокі былі зусім невясёлыя: скакуны задыхаліся... Рукі іх сударгава трасьліся, з усяго цела каціўся пот, а ногі былі аблеплены мокрымі чайнымі лісткамі... Некаторыя з кулі кульгалі, падціскаючы пад сябе тую ці другую нагу, абгорнутую ў анучы. К паўдню чайныя кучкі сталі куды ніжэй. Калі патоптаныя і памятыя лісткі пацямнелі і замоклі ня горш іх пакутнікаў-кулі, тоўсты Чэн-Мы-Юю заставіў скокі, і ўсе сталі зьбіраць з цыновак памяты чай у высокія круглыя кошыкі з крышкамі.

Напоўніўшы доверху адзін з іх, Чэу-Лі з дапамогаю сына ўзваліў яго на плечы і панёс

сьледам за іншымі пад павець, у цяні якой ўжо знаходзілася некалькі такіх сама поўных кошыкаў.

Пад павецьцю было ня так горача, і стаяў вельмі прыемны пах. Лі пацягнуў паветра носам.

— Што гэта так пахне?—шэптам спытаў ён бацьку.

— Гэта—чай,—таксама шэптам адказаў той.—Ён бродзіць, закісае ў цяплыні, як малако ў зачыненым гарлачы. Ад гэтага чай становіцца мацней і лепш на смак; трэба толькі ня даць яму перастаяцца.

Настаў поўдзень. Сонца паліла агнём голыя сьпіны людзей і накаляла зямлю, а праца на фабрыцы кіпела паранейшаму.

Кулі, пад суровым наглядам гаспадара, выцягнулі з-пад павеці стаяўшыя там ужо некалькі дзён кошыкі з брадзіўшым чаем і пасыпалі яго тонкім пластом на чыстых цыноўках для прасушкі.

Фабрыкант трывожна паглядаў на неба, баючыся раптоўнага дажджу, які пашкодзіў-бы прасушыць чай на сонцы; Чэн-Мы-Юю добра ведаў, што сушыць чай на вуглях вельмі нявыгадна: сонца-ж нічога не каштуе, а за вуглі даводзіцца плаціць звонкімі чохамі, дый сохне чай на іх ня скора, а часта і зусім перасмажваецца.

А гэта ўжо чыстая гібель для гаспадарскае кішэні!

Але на небе ня было ніводнае хмаркі, і вельмі скора пасыпаныя на сонцы лісткі пабурэлі і скруціліся. Прысеўшы на карачкі, Лі захапіў прыгоршчу чаю і стаў яго разглядаць.

— Якія дзіўныя трубачкі,—разважаў ён сам з сабою шэптам.—І кароценькія і доўгія... Чаму-б гэта так? Пэўна таму, што лісткі былі і вялікія і маленькія, усе ў аднэй кучы...—здагадаўся ён.

— Ах, ты сьвінны хвост! Ратазей! Прымайся-тка за справу, гультай,—пачуў ён раптам моцны выкрык Чэн-Мы-Юю,—а ня тое, дык давядзецца табе папрабаваць майго бамбукавага кія!—і, атрымаўшы здаравенную затрэшчыну, Лі вопрамець кінуўся к натоўпу рабочых каля цыновак.

Тымчасам тыя сабралі сухі чай у горкі, цяпер ужо зусім нізенькія, ды зноў прыняліся прыскокваць на іх, як і раней.

Чэн-Мы-Юю таўхануў перапуджанага Лі-Ю-Чэна на вольную горку, і кітайчонак са страху заскакаў па ёй з усёй сілы, а чорненькая каса высока падскоквала над яго выгаленым каркам.

— Ды цішэй, цішэй ты, касавокая малпа!—спуджана зарычэў Чэн-Мы-Юю.—Гэтак ад

майго чаю застанецца адзін толькі пыл! Лягчэй, кажу табе, чарцёнак! Вось як, глядзі!— Чэн-Мы-Юю, адпіхнуўшы хлопчыка, сам узьлез на яго месца і, прытрымліваючы краі сваёй шырокай кохты, як тоўстая баба, на насках затаптаўся па цыноўцы.

На гэты раз скакаць прышлося ня доўга: доўгія перасохшыя чайныя скруткі пад цяжарам босых ног скора паламаліся і зраўняліся па велічыні з іншымі, а гэтага толькі і трэба было фабрыканту.

— Досыць! Зьбірайце!—скамандваў ён і, дробна перавальваючыся, пабег пад павець, дзе ляжала цэлая гара вялікіх рэшатаў. Чэу-Лі з Лі-Ю-Чэнам першымі сабралі ды панясьлі гаспадару.

— Высыпай,—загадаў той, падстаўляючы рэшата з самымі дробнымі дзюрачкамі. Рукамі, якія трэсьліся ад зморы, паражнілі кулі адзін за другім свае кошыкі і, выціраючы пот, адыходзілі ў старану.

Мізэрныя чаінкі прасеяліся скрозь маленькія шчэлкі на пустую цыноўку, і Чэн-Мы-Юю да тых пор перасыпаў пакінуты ў першым сіце чай праз усе больш вялікія рашоты, пакуль у апошнім з іх не засталося нічога.

Так на вачох зьдзіўленага Лі з аднае кучы чаю атрымалася чатыры розных гатункі.

— Цудоўны чай,—марматаў Чэн-Мы-Юю. Ён пыхцеў, заліваўся потам, хціва перасыпаў з рукі на руку жменьку самых дробных чаінак.

— Самы лепшы, самы пахучы цьвяточны чай можна купіць толькі ў небам беражымага Чэн-Мы-Юю і ні ў кога больш у цэлым Кітаі!

І тлустыя шчокі яго блішчэлі ад здаваленьня.

* * *

Сонца даўно ўжо села, калі на фабрыцы скончылі працаваць. Змораныя кулі прыцягнулі з надбудоўкі міску з рысам і вязку сушанае рыбы.

— Ня балуе нас многапаважаны гаспадар,— заўважыў адзін, прымаючыся за ежу.

— Самы горшы бядняк корміць свайго сабаку лепш, чым Чэн-Мы-Юю нас... — згадзіўся другі.

— Так, у цэлым Кітаі не знайсьці больш пратухлага рысу і рыбы касьцісьцей, чым гэтая,—дадаў трэці, з агідаю набіваючы рот прагорклым рысам.

— Эх вы, гультаі!—пачуўся з цёмнага кута скрыпучы голас.—Кожны дзень цьвярдзіцё адно і тое-ж, а сэнсу з гэтага ніякага! Таксама будзеце жраць тухлы рыс і рыбныя

косткі, пакуль не падохнеце ад сонечнага ўдару на вачох у небам беражымага Чэн-Мы-Юю!

Лі-Ю-Чэн зірнуў у кут, адкуль чуўся голас. Там, прыхіліўшыся к сьцяне, сядзеў малады кітаец. Лі-Ю-Чэн яшчэ зранку зьвярнуў увагу на яго страшэнную худасьць і хворы бляск вачэй. Цяпер ён асьцярожна разгортваў брудныя анучы, абматаныя кругом яго ног, пакрытых ранамі і сухімі болькамі.

— Чаму ў цябе гэтак?—спытаў Лі, прысеўшы на карачкі і са спачуваньнем агледзіў яго хворыя ногі.

— А вось паскачаш па чаю тыдні два-тры, тады спазнаеш што такое чайны квас!—злосна мільгануў вачмі сухі кулі і, не дакрануўшыся да вячэры, адвярнуўся к сьцяне і замоўк.

Лі-Ю-Чэн доўга ня спаў у гэты вечар. А калі заснуў, яму прысьнілася, што ён скача па аграмаднай, як гара, кучы зялёнага чаю, што ў яго садняць ногі, і што Чэн-Мы-Юю б'е яго доўгім бамбуковым кіем, а з-за кута выглядае хворы кулі і моцна рагоча...

* * *

На другі дзень Лі-Ю-Чэн прачнуўся з золакам. Вакол яго кулі дасыпалі апошнія хвіліны, пакуль не заскрыпелі ля варот кала-

мажкі з чаем і грубы вокрык гаспадара не пагнаў іх ізноў на цяжкую працу. Неба ўгары было яшчэ зусім бледнае, і толькі залацілася і ружавела па краёх, там, дзе ўставала сонца.

На двары капаўся вялікі пярэсты певень, і гультайна пахруквала тлустая, нязграбная сьвіньня...

Лі-Ю-Чэн пацягнуўся, аглядзеўся і накіраваўся к хляву, адкуль даносілася ціхая гамонка.

Там, уздоўж вузкага і доўгага стала сядзела з дзесятак жанчын. Перад кожнай стаяў плоскі, круглы кошык, знутры абклееены белай папераю і поўны сухога чаю.

Жанчыны, нізка прыгнуўшыся над сталом, праворнымі пальцамі перабіралі чаінку за чаінкай, адкідваючы ў бакі сухія паламаныя галінкі і сьцяблі, якія разам з чаінкамі праскочылі скрозь рэшата. Зьмяшаўшыся з лепшымі гатункамі чаю, яны маглі прыдаваць яму гаркаваты, няпрыемны смак.

У хляве было зацішна. Першыя праменьні сонца, зірнуўшы ў маленькае вакенца, залатымі зайчыкамі ляглі на схіленыя галовы кітаянак, на іх туга зачэсаныя на патыліцу чорныя бліскучыя валасы, і ласкава падружовілі жоўтую скуру на іх тварах...

Пажылыя жанчыны працавалі моўчкі; за тое некалькі маладых дзяўчын-кітаек стала перамаўляліся і ціханька сьмяяліся.

Раптам у дзьвярох бязшумна вырасла тоўстая фігура Чэн-Мы-Юю, і размовы зараз-жа змоўклі. Жанчыны яшчэ ніжэй прыгнуліся да сваіх кошыкаў, і іх жоўтыя пальцы захадзілі хутчэй.

Заўважыўшы спалоханага Лі-Ю-Чэна, фабрыкант адчыніў быў рот, каб вылаяцца, але раздумаўся і моўчкі піхнуў кітаёнка да стала, дзе стаяў яшчэ адзін незаняты кошык. Той, узрадваўшыся, што так лёгка адрабіўся, уткнуўся носам у чай і рупна прыняўся за працу.

Як толькі Чэн-Мы-Юю вышаў, жанчыны асьмялелі і зноў засакаталі.

Сядзеўшая побач з Лі зусім маладзенькая кітайка ціханька засьмяялася і моцным шэптам зьвярнулася да свае таварышкі:

— Глядзі, сястрычка, які ў нас слаўны сусед аб'явіўся! Ей-права, трэба-б адзець яго ў жаночае плацьце і зрабіць прычоску па-нашаму: вышла-б прыгожанькая дзяўчынка!

Абедзьве засьмяяліся, а Лі сканфузіўся дарэшты, пачуўшы такія крыўдныя для мужчыны словы.

Але дзяўчаты так заразьліва сьмяяліся і так прыветна гутарылі з ім, што вельмі скора ён зусім асвоіўся і нават сам стаў насьмяхацца.

Тым часам на двор прывезьлі сьвежы чай і закіпела звычайная праца; данясլося шуршэньне ліста і цяжкае дыханьне запыханых рабочых.

Калі першая порцыя, разданая жанчынам, была скончана, Чэн-Мы-Юю сабраў ачышчаны чай у вялізарны кошык, і, узваліўшы яго на сьпіну Лі-Ю-Чэну, вышаў з ім на двор. Там, у баку, ужо было прыгатавана з дзесятак кошыкаў дзіўнае формы: кожны з іх пашыраўся кверху і кнізу, а ў сярэдзіне, дзе кошык звужваўся, была ўціснута плеценая пераборка, падзяляўшая яго на дзьве часткі У верхняе аддзяленьне Чэн-Мы-Юю перасыпаў чай з кошыка Лі-Ю-Чэна. Потым ён пад кожны кошык падклаў па кучы гарачых вуглёў з тут-жа стаяўшай жараўні.

Перавальваючыся і аддуваючыся, забегаў Чэн-Мы-Юю ад аднаго кошыка да другога, мяшаючы чай доўгім бамбуковым кіем.

Лі-Ю-Чэн дужа зьдзівіўся такому праворству лянівага і тоўстага гаспадара і, шырока расчыніўшы рот, утаропіўся на яго.

— Ты чаго буркалы вылупіў, паршывы лягушонак,—ускінуўся раптам на яго той. — У гэтай справе гаспадарскае вока патрэбна ніхто ня зможа падфарбаваць чай на вуглях так, як гэта робіць усім вядомы фабрыкант Чэн-Мы-Юю... Даручы вам—замест чаю адзін

попел у кошыку застанецца. Гультаі! Лежабокі!

Вельмі хутка чай роўна-роўна пацямнеў так, што чаінка не адрозьнівалася ад чаінкі. Цяпер Лі-Ю-Чэну прышлося перасыпаць у адбудованую дзеля гэтага ў куту хлева шырокую скрынку.

Раптам на двару пачуліся моцныя крыкі і нейкі нязвычайны рух. Спаражніўшы апошні кошык, Лі-Ю-Чэн скокнуў з хлява: у гэты час у вароты ўваходзілі два здаравенных кулі з бамбуковымі каромысламі, на канцах якіх боўталіся па кучы пярэстых драўляных скрынак.

Кулі ва ўсё горла крычалі: „А-хооо! Э-хоо!", рабочыя ўторылі ім, скрынкі, хістаючыся, тараахалі, і двор запоўніўся шумным ажыўленьнем. Раптам каля прышлых зразу сабраўся парадачны натоўп: кожнаму хацелася як можна лепш разглядзець пярэстыя малюнкі, што пакрывалі лякірованыя сьценкі скрынь.

Тут былі і аграмадныя кветкі, і яскравазялёныя лісты нябачанай формы, і нават людзі. Але Лі-Ю-Чэну больш за ўсё падабаліся вялікія яркія матылі, якія, як жывыя, порхалі над ружовымі і блакітнымі рожамі.

Аднак, Чэн-Мы-Юю зараз-жа разагнаў усіх па мясцох.

— Нечага пяліцца! Скрынак, ці што, ня бачылі?!—галасіў ён, раздаючы направа і на-

лёва штурхачы.—Усе вы ня прэч пратырчэць так да вечару, а справа не стаіць!

Атрымаўшы штурхача, і Лі-Ю-Чэн засьпяшаўся выбрацца па добраму здароўю.

Усе зьвярнуліся да перарванае працы, і зноў двор агаласіўся частым тупаньнем босых ног па ўмятаму чаю ды адрывістымі уздыхамі людзей.



Чэн-Мы-Юю зранку быў як на іголках. Напярэдадні ўвечары ён даведаўся, што заўтра з суседняга гарадку накіроўваецца вялікая партыя чаю з усіх загародных фабрык у Шанхай, адкуль яго ўжо разьвязуць па ўсяму сьвету.

Трэба было сьпяшацца: тоўсты Чэн-Мы-Юю лаяўся ў гэты дзень, як ніколі, плёваўся, галасіў і працаваў сваім кіем направа і налева.

Трапілася і Чэн-Лі: фабрыкант сьцебануў бедака па сьпіне так, што той падскочыў на цэлы аршын. Лі стала шкода бацькі; але ён убачыў, што той маўчыць, і кітаёнак адвярнуўся, сьціснуў кулакі, чуць ня заплакаўшы ад бясьсільнай злосьці.

Рабочыя зусім зьбіліся з ног і з панталыку. Сухі кулі з перавязанай нагою ня раз з падлоб'я пазіраў на Чэн-Мы-Юю, і чорныя

вузкія вочы яго мільгалі злым аганьком. Лі-Ю-Чэну раз нават здалося, што вось-вось рынецца на яго. Іншыя маўчалі, паслухмяна тапталіся, як і заўсёды.

Толькі калі на зямлю ціха апусьцілася ноч і зазіяла тысячамі сваіх жывых зорак у чорным небе, зморавыя кулі спынілі на кароткі тэрмін сваю працу. Яны разьмясьціліся пад павецьцю, каб павячэраць і хоць крыху перадыхнуць, бо ім сягоньня вызначалася яшчэ начная праца.

— Маўчыце, трусьлівыя бараны, мармытаў сухі кулі, перавязваючы хворую нагу.— Хутка вас прымусяць пацець і дзень і ноч.. Набівайце кішэнь гэтай паганай жабе!

Нават жанчыны працавалі ў гэты дзень да цемені. Толькі скончыўшы з рэштаю неадсартаванага чаю, высыпалі яны з хлева, выпростваючы сьпіны і плечы, і пасьпешна разьбегліся, кожная ў свой бок.

Зморанай хадою, з маўклівым паклонам выходзілі пажылыя жанчыны з хлява і быццам правальваліся ў цемень.

Затое маладыя дзяўчаты, юркнуўшы за вароты, зараз-жа пачыналі моцна сьмяяцца і сьпяваць, быццам птушкі, якія вырваліся на волю, і звонкія галасы іх доўга яшчэ даносіліся з цемені...

Рабочыя не пасьпелі яшчэ павячэраць, як Чэн-Мы-Юю паказаўся на дарозе цьмяна асьвечаных дзьвярэй хлява, і моцна захлопаў у ладкі.

Усе захваляваліся па вуглах хлява, патрэскваючы, успыхнулі аганькі гліняных місак, да краёў поўныя маслам... Пад страхою захісталіся ад лёгкага сквазьняка вялікія ліхтары з белае паперы, шаволячы вакол цені.

Скрынкі дзіўна грамазьдзіліся адна на другую. Чырванаватае сьвятло місак адбівалася ў іх лякірованых сьценках, і Лі-Ю-Чэну здавалася, што кветкі на іх падымаюць пышныя галоўкі, твары жывуць і страшэнна падміргваюць, а матылі, распастрываючы пярэстае крыльле, гатовы адарвацца і закружыцца ўверсе, над ліхтарамі.

Між тым хлеў запоўніўся шумам і рухам. Рабочыя расстаўлялі скрынкі ў рад, здымаючы з іх крышкі, і іх чорныя цені ў беглых водблесках агню здаваліся аграмаднымі.

Адны з іх выпроствалі сьвінцовую падкладку скрынак, другія невялікімі кошыкамі бралі гатовы чай з вялікае скрынкі і перасыпалі яго ў малыя, умінаючы яго звычайным спосабам—сваімі ўласнымі босымі нагамі. Трэція ў гэты час капашыліся ў стаячай воддаль жараўні, да чырвані накаляючы маленькія жалезныя палачкі-стрыжнякі, якімі яны тут-жа

старанна пакавалі сьвінцовыя вокладкі і драўляныя сьценкі ўжо поўных скрынак.

Лі-Ю-Чэн пасунуўся быў у хлеў, але тут папаўся пад ногі аднаму кулі, потым другому, і, не жадаючы перашкаджаць, адыйшоў у бок, дзе і прымайстраваўся на кучы зваленых у кутку цыновак.

Усе гэтыя фігуры, якія сьпяшаліся, снавалі, таўкліся, асьвечаныя мігаючым сьвятлом, здаваліся яму вялікімі чорнымі кажанамі, патрывожаныя ў сваім начным супакоі...

Скрынкі адна за другою грамазьдзіліся ўсё вышэй і вышэй, масла ў місках трашчэла, ліхтары мерна хісталіся ўверсе, як вялікія, адбітыя ў ціхай вадзе, срэбныя маладзікі. І Лі-Ю-Чэн да тых пор глядзеў на іх, пакуль вочы яго не сасьмяглі ад зморанасьці, і ён не заснуў у сваім куту.

*
* *

— Дармаеды! Лежабокі! Гвалтаўнікі! — разьнеслася па двару на наступнае раньне. Чэн-Мы-Юю надрываўся, таўхаючы сонных кулі, якія спалі мёртвым сном.

Была паўцемень. Не пасьпеўшыя адпачыць людзі ўскочылі і, яшчэ хістаючыся ад сну, нічога не разумеючы, затоўпіліся ў розныя бакі.

Чэн-Мы-Юю бегаў па двару, лаяўся і выціраў буйны пот з твару. Від у яго ў гэтае

раньне быў асабліва ўрачысты. Паверх звычайнага плацьця заможнага кітайца, якое складалася з нязграбнае кохты і шырокіх простых порткаў, Чэн-Мы-Юю апрануўся ў сьвятошную адзежу: надзеў блакітны шоўкавы халат, расшыты кветкамі яблыні і матылямі. Галаву ён накрыў вышытай круглай шапачкай, на манер татарскае цюбетэйкі. К завяршэньню ўсяго ў руках яго красаваўся вялікі пярэсты веер.

Кулі, як рупныя мурашкі, снавалі з двара ў хлеў і назад, выносячы скрынкі з чаем.

Чэн-Мы-Юю быў і тут і там. Яго тоўстая фігура то мільгала на двары, то хавалася ў дзьвярах хлеву: ён зірка паглядаў за тым, каб кожны кулі ўскінуў на сябе памагчымасьці большы цяжар.

Нарэшце, усе нагрузіліся, і доўгім гужам, як пакорнае быдла, рынуліся к адчыненым варотам.

Чэу-Лі, нагружаны, як вярблюд, ледзь ішоў.

Ногі яго нагіналіся і адмаўляліся служыць, ня гледзячы на ўсе клапоты бедака; каромысел хістаўся з боку ў бок і перашкаджаў ісьці.

Раптам адзін канец яго ірвануўся кверху пераважыўшы другі, і Чэу-Лі, няўтрымаўшы раўнавагі, паваліўся вобзем. Скрынкі пасыпаліся з гулкім трэскам; адна з іх, ударыў-

шыся аб камень, разьбілася, і чорны струмень чаю пацёк на пыльную зямлю.

Лі-Ю-Чэн моцна спалохана ўскрыкнуў і кінуўся быў на дапамогу бацьку, але нештааграмаднае і цяжкае адпіхнула яго так, што ён паляцеў кубарам.

Падняўшыся, Лі ўбачыў, што Чэу-Лі ўсё яшчэ ляжыць на зямлі, а Чэн-Мы-Юю шалёна скача вакол яго, б'е яго з усёй сілы кіем і нагамі па галаве і па ўсяму целу.

— Сабака! Паршывы асёл!—рычаў ён,—будзеш у мяне ведаць, як псаваць гаспадарскае дабро!

І дробныя глухія ўдары сыпаліся на нярухома ляжачае ў пылу цела.

Лі-Ю-Чэн загаласіў і, ня помнячы сябе ад злосьці і страху, кінуўся быў на Чэн-Мы-Юю, але нехта ізноў апярэдзіў яго, і з сілаю адкінуў у старану.

Гэта быў сухі кулі.

Шырокім скскам кінуўся ён да фабрыканта.

Нагружаныя кулі, як спалоханае стада, шарахнуліся ў бок і зьбіліся ў кучу.

Сухі кітаец з лоўкасьцю малпы зьбіў з ног тоўстага Чэн-Мы-Юю. Моўчкі, з гарачымі вачмі і бледным ад гневу тварам, ён лоўка абматаў вакол аднае рукі яго доўгую касу, а другою стаў лупцаваць яго па тлустай сьпіне.

Чэн-Мы-Юю поўзаў тоўстым жыватом па зямлі і з дзікімі галашэньнямі стараўся ўкусіць свайго супарата ў голую нагу, але той прытка ўвільваў і не пераставаў малаціць яго жылістым кулаком.

Добра адлупцаваўшы, ён пхнуў яго нагою ў пуза і адыйшоў у бок, цяжка дыхаючы і выціраючы твар.

Чэн-Мы-Юю цяжка падняўся і сеў.

Пыл, зьмешаны з потам, брудным цуркам сьцякаў з яго шчок і са лба. Блакітны халат вісеў клоччам, ад вялікалепнае касы, якая некалі складала яго гордасьць, застаўся адзін мізэрны хвосьцік.

Ён задыхаўся і шырокім, як у жабы, ротам сударгава лавіў паветра.

Стаяла мёртвая цішыня.

Чэн-Мы-Юю падняўся з зямлі і азірнуўся мутнымі вачыма.

Кулі моўчкі згрудзіліся ў баку, але выраз іх твараў не паказваў нічога добрага.

Чэн-Мы-Юю расчыніў быў рот, але спахваціўся, і толькі моўчкі пагразіў кулаком, кульгаючы выбег за вароты і галёпам пусьціўся па дарозе к селішчу.

Невялікі двор зараз-жа запоўніўся гулам галасоў. Усе крычалі і размахвалі рукамі.

— Ну, цяпер бяда!—адклікнулася ў натоўпе

— Ні завошта Чэн-Мы-Юю не даруе такой крыўды.

— А лоўка яго адрабіў Мен-Цзы! Вымазаў у гразі, як паршывае парасё!—крычалі адны.

— Лоўка-то, лоўка, а якаво цяпер прыдзецца нашым сьпінам?—пыталі другія.

— Ня горш ранейшага: усё тым-жа кіем будзе лупіць, дзела знаёмае...

— Затое і небам беражымы Чэн-Мы-Юю хоць разок адведаў кулака!

— Ня вельмі-то, відна, беражэ яго неба: наглытаўся пылу ня лепш, чым пратухлага рысу!—моцна засьмяяўся нехта.

Засьмяяліся былі і іншыя, але ў той-жа час змоўклі, спалохана ўглядаючыся ў напрамку селішча.

— Ну, а твая справа дрэнная, дзед!—зьвярнуўся да Чэу-Лі самы старэйшы з усіх кулі.— Абвінавацяць цябе і разам з Мэн-Цзы пасодзяць. Так ужо даводзіцца ў такіх выпадках. А наб'юць калодкі на шыю, тады ўжо ня выйці жывым на волю. Лепш за ўсё, забірай хлопчака ды ўцякай, пакуль ня позна.

— Правільна!—пачуліся галасы.—А то, як бач наляціць Чэн-Мы-Юю са старшынёю,—тады ўжо ня выблытаешся!

Чэу-Лі моўчкі схапіў за руку дрыжачага ад хваляваньня Лі-Ю-Чэна і кінуўся бегчы: у ва-

ротах ён азірнуўся, шукаючы вачыма Мен-Цзы, але той зьнік.

Бягом падымаліся яны ўгору па сьцежачцы, якая гублялася ў нізкім кустоўі. Дабрыўшы да супроцьлежнага схілу, Чэу-Лі застанавіўся:

— Ну, вось мы ізноў жабракі-валацугі, Лі-Ю-Чэн,—прамовіў ён.—І праца наша дарэмна загінула: ня звонкімі чохамі, а палачнымі ўдарамі заплаціў нам паважаны Чэн-Мы-Юю...

— Затое і на яго тлустай сьпіне засталася ня дрэнная памятка, бацька,—адказаў кітаёнак.

— Ды яшчэ якая памятка!—пачуўся каля іх скрыпучы голас, і Мэн-Цзы бясшумна вышаў з-за кустоў на дарогу.

Уцекачы сустрэлі яго зьяўленьне радаснымі ўскрыкамі.—Хутчэй, хутчэй,—перарваў ён іх,—я даўно ўжо чакаю вас тут; трэба сьпяшацца. Ведаю я звычаі гэтых быдлаў; калодкі на шыю ды сабачы ланцуг. Ідзем, я ведаю кожную сьцежачку ў гэтых мясцох, а вы-ж прышлыя і без мяне напэўна-б папаліся ім у лапы.

І ўсе трое рупна пакрочылі ўніз па дарозе.

— Ну, ды скора відно, прыдзе гэтаму канец!—гаварыў Мен-Цзы, кульгаючы на хворую нагу.—Яшчэ ўчора чуў я ад аднаго вандроўнага гандляра, што ўвесь Паўночны Кітай падняўся і зашаваліўся, як мурашкі. Доўга цяр-

пелі кітайцы: і свае і чужыя нажываліся на іх сьпінах, ды ўсякаму цярпеньню прыходзіць канец,—узбужана мармытаў ён, шырокімі крокамі апускаючыся з гары.

Сонца ўставала на ўсходзе, і цёплае сьвятло раньніх праменьняў залівала ўсё кругом.

Звонка чырыкалі птушкі, пархаючы з галінкі на галінку.

— Бацька, пойдзем і мы туды!—усклікнуў раптам маўчаўшы да тых пор Лі-Ю-Чэн.

— Куды, сынок?—сур'ёзна спытаў Чэу-Лі і зірнуўшы на сына, застанавіўся.

Кітаёнак быццам вырас: жоўты твар яго выражаў цьвёрдую нядзіцячую волю, косыя вочы праменіліся нейкім новым сьвятлом.

— Куды, сынок?—перапытаў Чэу-Лі.

— Пойдзем на поўнач, бацька! Мы-ж такія кітайцы, як і яны, і таксама цярпелі голад і палачныя ўдары! Пойдзем і мы туды, к народу, бацька!—цьвёрда прамовіў ён, гледзячы проста ў вочы Чэу-Лі.

—Так, Лі-Ю-Чэн!—сказаў Мен-Цзы, апускаючы руку на плячо хлопчыка.

Чэу-Лі сур'ёзна махнуў галавою і моўчкі крануўся ў дарогу.

Так і пашлі яны проста на поўнач; толькі на гэты раз уперадзе ішла невялічкая постаць

кітаёнка, упэўнена прабіраючыся па каменьнях сьцежачкі.

А залатое гарачае сонца падымалася ўсё вышэй і ўсё яскравей залівала бляскам і цяплынёю цьвітучую зямлю.



